УДК 882.6-1
ББК 84 (4 Беи) С 53

**Снарская І.**

Лясная панна: Вершы. – Мн.: «Беларускі кнігазбор», 2001. - 116 с.

ISBN 985-6638-28-3.

Іна Снарская — выхаванка Полацка, а жыхарка Палтавы. Паэтка жыве жыццём суседняе дзяржавы, знаходзіцца ў залатой стыхіі ўкраінскае мовы, але сны свае бачыць па-беларуску і вершы складае таксама па-беларуску...

Гэта кніга — удзячнасць беларуска-ўкраінскаму свету.

Аўтар выказвае шчырую падзяку
**касцёлу св. Сымона і св. Алены ў Мінску і МГА «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»**
за чынны ўдзел у выданні гэтай кнігі.

## Лірычны шал у бясконцай прасторы беларускай лексікі...

Хіба што гэтак можна адказаць на пытанне — што такое паэзія Іны Снарскай.

«Лясная панна» — трэці зборнік паэткі.

Я чытаў гэтую кніжку і нібыта піў віно; я хваляваўся, як грэшнік, які ніколі не стане праведнікам...

Вершы спадарыні Снарскай — поле душы, у якім няма закалыханай гармоніі, у якім — гармонія страсная і нястомная, як агонь...

Вершы спадарыні Снарскай — люстэрка цела, у якім — струннае, часам свавольнае суладдзе інтанацыйнай пластыкі...

Калі кажуць, што паэзія ад Бога, то, мусіць, перш за усё маюць на ўвазе найвышэйшы ўздым душы, якая здольная на святочнае каханне.

«Лясная панна» — палац кахання.

Гэта кніга ўзбагачана таямніцамі парнаскіх пачуццяў.

*Леанід Дранько-Майсюк*

# БУРЫ СЫЧ

* * *

А калі згарбеюць плечы,
А калі знямеюць рукі,
А калі засмягнуць вусны,
А калі здранцвееш ты, –
Ацалеюць толькі крылы –
Дзве магутныя дубровы,
А ў дубровах шчырым словам
Пракавечныя званы.

## Буры сыч

Боль мой, буры лясны сыч,
Ты мне вочы ў ночы пазыч,
Разбуры мой здрадлівы сон
І крылом захіні, і крысом.

Красамоўна маўчанне тваё:
Там шукае свой скарб груганнё,
Там цякуць у лясныя вякі
Пракавечныя песні ракі.

А з рукі падымаецца ветах
На скрыжалях вятроў запаветных.
Гэта ўсё падуладнае мне,
Пакуль сыч за сцяною раве.

## Ваўкалак

Я звяроў вучыла размаўляць,
Я чытала ім лісты і кніжкі,
Ды глядзелі вочы ваўчанят
Праз мяне ў сусвет лясны, няблізкі.

Я звяроў вучыла маляваць,
Ім палітру падбірала з неба
І з дажджом мяшала зарапад,
А яны жадалі толькі хлеба.

А спявалі мы амаль адно,
Калі поўня адчыняла вокны,
У вачах сляпучае сяйво
Адбівалася абразам воўчым.

Як сірочы плач хістаў зямлю,
То выццё ваўчынае сціхала.
Я спявала песню не сваю –
Ваўкалакам выла і стагнала.

Я спявала, а вакол ваўкі
Абарону ланцугом трымалі,
Калі людзі з-за маёй ракі,
Як на ловы груганнё склікалі.

Як на ловы, як на вечны скон
Замаўлялі мне хаўрус сабачы.
А ваўкі не разумелі слоў,
Толькі разумелі голас плачу.

Я звяроў вучыла размаўляць.
Я людзей прасіла спачуваць...

**Чароўная чапля**

Чароўная чапля на белай назе
У ноч пераходзіць вандроўніцай змрочнай.

Супыніцца час у сляпучай вадзе
Адчайнаю песняю, ветрам паўночным.

І птушка крыло пакладзе на кусты,
Сунічную спёку і чорныя вочы.
Чатыры дарогі натоляць масты,
Якія крывавяць на золку сірочым.

**Каляды**

Плач, дитино, плач…
То янголи від тебе відлітають…

Хрыстос нарадзіўся –
ў гарачых далонях
Званочкамі цешыцца смех.
Вунь неба ліецца на беразе поўні
З усіх беспрітульніх стрэх.
Вунь дрэвы віруюць:
у вырай, у вырай,
Мяне пакідаюць зямлі,
У вас – карані,
а ў мяне іх бяскрылле
Гарыць, як лямеш на раллі.
У вас карані,
а ў мяне толькі вечар –
Нашчадак змарнелых вякоў.
Зноў вецер, зноў вецер

ірвецца за плечы
З усіх ледзяных замкоў.
Зноў дзверы, зноў дзверы
затулены
цемрай
І вокнаў асляплі агні…
Кранаюся вуснамі ветразя веры:
Мой Божа, мяне памяні.

**Піліпаўка**

Як Піліпаўка настане,
то ваўкі ідуць гайнёю…
*З Тураўскага слоўніка*

Вочы ў душу заглядаюць зверам,
Вочы душу пазбаўляюць веры.
Вечар у верасні – мой нарачоны
Б'ецца галінай халоднай і чорнай.
Воўк мне на плечы лапы кладзе,
Будзе ён побач сядзець і глядзець:
Вочы у вочы, агмень у агмень
Вечна са мною вечны мой цень.
Побач са мною – мудрэйшы, чым я.
Побач са мною – кат і суддзя.
Будзе сціскаць у цісках галаву,
Будзе мой боль ападаць на траву…
Выслізнуць я ад яго не змагу –

Шляхам звярыным у ноч пабягу.
Поўня вугельным крылом праз мяне
Нешта завые і нешта спяе...
Вочы мае вырываюцца ў цень,
Рукі мае загаворваюць дзень,
Косы мае адліваюцца ў поўсць, –
Хто гаспадар тут, а хто толькі госць?
Як чалавеку ваўка зразумець?
Будзе адзін з нас сядзець і глядзець:
"Ты, чалавек, чалавекам застаўся?
Што, небарака, папаўся, папаўся?.."

## Паўночны вецер

Вы чуеце – вецер,
                    вы бачыце – вецер?
Паўночны мой брат абдымае за плечы,
Сціскае за плечы,
                    за вокнамі крочыць.
Мяне распрані і разуй гэтай ноччу.

Здымі апранахі, як лісце, змяці,
З табой па далоні я буду ісці,
З табой па далоні
                    ў шалёны твой лёс.
І лес захіне нас,
                і зоркі,
                        і слёзы...

## Сівы ўспамін

Такой гарачай поўні,
такой сляпучай ночы
Стагоддзямі не ўспомніш,
пакуль у лес не збочыш.
Травою-перамётам,
звярынаю сцяжынай,
То птушкай пералётнай,
то гожаю дзяўчынай
Лячу – не разаб’юся,
ў малітве слупянею,
Я тварам дакрануся
да вечнага камення.
Нас продкі так вучылі:
то бегчы, то ляцець,
Каб не паліць лучыну –
ў грудзях свой светач мець.
Такой вялікай поўні,
такой шалёнай ночы
У цягніку раптоўным,
як на паляне змрочнай,
Не ўбачыш у акенца
карункавай фіранкай.
Мне памяць цісне сэрца:
танклявая паганка
Басонач, толькі ў споднім
да вогнішча выходзіць.

* * *

Свеціцца, свеціцца сіні мурог,
Падае, падае зорка на стог,
Дымныя, дымныя коміны скрозь,
Дзіўныя, дзіўныя крылы, як лёс.

Белыя, белыя крылы ў руках,
Іх даглядае знявераны птах.
Крылы і птаха я ў поле нясу,
Каб паглядзелі яны на расу.

Поле далёка, далёка яшчэ,
Слёзы глыбока, глыбока ў рацэ.
Птах мой стаміўся, стаміўся спяваць.
Крылы гараць, і гараць, і гараць…

* * *

Верасовая слодыч – гарачага сэрца
стамлёнасць…
Наталяе лагчынай, і лугам, і лесам
айчына,
Лечыць бяссонне начною савой-удавой.
Войнік і вецер ляцяць на кані праз агонь.
І яны – спадкаемцы шафранавай поўні –
Пра мяне не прызнаюцца, словам
не ўспомняць…
Не прызнаюць навобмацак боль мой лясны.

Сыдзе ноч пакрысе, сыдзе ноч па расе
І жарыны ўпляце ў валасы.

## Зязюля

Зязюлька ляцела, зязюлька кувала,
Каб сонечка ўстала.

Пад адным крылом – ноч,
Пад другім – надвячорак,
А яшчэ – саракоў сорак.
Каб не сорак саракоў,
То жыла б паненкаю,
Не хадзіла б па дварах
З торабай ды кавенькаю.
Так ні жонка, ні ўдава, –
Хто калеку возьме?
Ні страхі, ані вугла,
А з вачэй – ўсё слёзы.

Дзе слёзкі каціліся,
Там дзеткі радзіліся,
Травой спавіліся,
Расою умыліся…

Толькі так зязюлечцы цёмна,
Што ніяк не прыпомніць:
Як малятак назвала,

Дзе сірот пагубляла?

Зязюлька ляцела,
Зязюлька кувала,
Каб сонечка ўстала…

* * *

Сем сыноў
У матулі сівой,
Сем асілкаў,
Сем волатаў.
Першы сынок –
Дубок,
Другі – цар вужыны,
Трэці – туман над ярынай.
Чацьвёрты – воўк,
Пяты – крумкач,
(Матуля, не плач),
Шосты – крамень,
Сёмы – агмень.
Сем сыноў
У матулі сівой.
А матуля – крыніца,
Жывая вадзіца.

## Брат

> Калі сустрэнешся з ваўком, трэба яму сказаць:
> – Брат, саступі мне паўдарогі, – і табе будзе паўдарогі
> *А. Ненадавец. «Святло таямнічага вогнішча»*

Я табе паўдарогі пакіну,
Пабяжыш ты, пакрочу я,
У гушчар лясны птушку кіну,
Птушку кіну – ўпадзе страла.

Сінявокая смага зямная,
Ты ласкавы да крыку, мой воўк,
Ну чаго зноў мяне абмінаеш:
Чалавечае бачыш яство?

Птушку кіну – вяртаецца камень,
Можа, здрада, а можа, ярмо, –
Так няўтольна свеціцца памяць
У гарачых зрэнках яго.

* * *

І ластаўка сляпая прыляціць,
Калі сплыве зара на падваконне,
Парэжа крылы аб лязо прадоння,
Як у вачэй тваіх папросіць піць.

І кінецца да вокнаў, як у рукі,
І паспрабуе зрушыць цішыню.
Той ашалелы звон разбітых гукаў
Пасыплецца крывава на зямлю.

І пацякуць па бездарожжы ночы
Гады мае, павіснуць на плячах,
Як рызманы у жудасним бязвоччы,
Як рэха анямелае ў вяках.

І, можа, ты мяне тады пачуеш,
За плечы возьмеш, схіліш галаву,
Мяне, чужую, да грудзей прытуліш,
Сівую, пакладзеш мяне ў траву.

**Чарацяная сукня**

Чарацяная сукня не муліць, а рэжа,
Працінае сусвет унутры і вакол,
Кола дзён замыкае на вецер і снежань,
І рыхтуе палонку, а можа, палон.

Нагадае знаёмую постаць сцябліна,
Накалыша, навее, насвішча, насніць, –
І абрынецца неба ў сляпую даліну,
На далонь, дзе блакітная жылка дрыжыць.

Жыць – спакуслівы подых начамі,

Жыць – нямы і зварушлівы цень,
Ён мяне працінае, лінчуе адчаем,
Небывалым, нястрымным жаданнем ляцець.

Ашалелая выгадка хворых стварэнняў –
Чарацяная сукня ірвецца, імкне
І пабітым сабакам паўзе ў сутарэнні –
Раны гоіць свае і не бачыць мяне.
Я лячу...

***

*Светлай памяці бабулі*
*маёй Матроны*
*Данілаўны прысвячаю...*

Бабуля мая адляцела зязюляй...
Марнела, сівела, сохла,
Але Зніч жыў за сэрца вышэй
І за столю-нядолю.
Стогадовая бабця была,
Мела голас, мо ў салаўя.
Жэўрыла свечкай жыццё,
Дні падлогу ўсцілалі асцём...
Сто гадоў – так бязлітасна мала:
Бабуля і ноччу спявала.
Спяшалася паспець па вясне
Прабегчыся па расе,
У хату вецер ўпусціць,
Косы свае расплясці

І таньчыць, пакуль небакраем
Сонца падымецца караваем…
Так мала сто год на жыццё.
Сцішыўся час – і пацёк…
Не канала бабуля – спявала.
У выраі-вечары зязюляю вечнаю
Ляцела, гарэла, кувала.

**Гармонія натхнення**

Камень, камень рэжа ценем,
Сонца, сонца ясніць крозы,
Грай, гармонія натхнення,
Грай, пакуль жывыя слёзы.

Серафіму – крылы, крылы,
Немаўляці – сонца, сонца.
Грай, гармонія натхнення,
Грай, гармонія, бясконца.

За мяжой, мяжой – калыска,
У калысцы – ясны сокал.
Грай, гармонія натхнення,
І сляпі пустэчы вока.

Вокны, вокны, мушлі, мушлі, –
Не душы мяне, душа,
Я ляцець дадому мушу

На пярынцы ад крыла.

А гармонія натхнення
Творыцца на тым крыле.
Вечар, вечар, сцены, сцены,
Белы ветразь на стале.

# МОЙ ДОМ ГАРЫЦЬ

* * *

Божа,
Падсцялі рагожу
Пад хуткія ножкі,
Пад белыя крылы
Той зорцы астрожнай,
Адзінай...
Ды што гэта я, –
Зноў цябе не пазнала,
Калі ў вочы глядзела
І прасіла так мала...
Толькі ўсё мне замала,
Не спявала – крычала,
Вокнаў не адчыніла,
А ветру панапускала
У белую, чыстую хату
Праклятую
Здрадлівай мной.
Даруй...

## Песня

Дзе з барвовых берагоў
Звон збівае полымя,
Адштурхнулася зямля
Непрытомным спомінам.

І рукамі не ўтрымаць,
Не загушкаць стомаю, –
Развучыліся спяваць
Мы з сястрой, бяздомныя.
Рэхам звон заве, плыве,
Толькі пад нагамі нам
Ні травы, ні астраўкоў,
Ні хусцінкі мамінай.
Дзе надзея, дзе спачын?
Крылы невідушчыя.
Мы куды, зямля, ляцім?
Безгалоссе душыць.

* * *

Вокны, вокны, вокны спяць,
Сосны, сосны, сосны сняць.
Спі, знявечаная кветка.
Ўспамінай мяне хоць зрэдку.
А прачнешся – за акном
Узарвецца крыгалом.

* * *

Вырошчваю вяроўку на сцябло,
Выпешчваю птушынае крыло;
Вымольваючы зерняткі ў пачвары, –
Выпальваю з вачэй насупраць памяць.

## Воўк

А гэты дом да дому непадобны,
Згубіў даўно ён радасці свае, –
Там каламуціць вёсны воўк галодны
І песні свае дзікія пяе.

І гэты воўк не ведае спачыну:
Ён трушчыць дзверы і вяроўкі мне,
Мае лісты за далягляд закіне –
Пасля маўчыць і цешыцца з мяне.

Яго клыкі – гарачае жалеза,
І гэты смак я ведаю даўно,
Але ў душу ваўку свайму не лезу
І на вячэру падаю віно.

А мы з ваўком як ворагі-блізняты,
Раку шкадобы перайду я ўброд…
Такі жаданы. І такі пракляты, –
Распятыя мы разам колькі год.

Наш дом даўно да дому непадобны,
Там свечка сумна плавае ў акне, –
Выводзіць воўк матыў такі жалобны:
Па мне галосіць і мяне кляне.

## Прароку

Чалавецтва – тупіковае
адгалінаванне эвалюцыі...

*З газет*

Не пашкадуй, пайдзі не азірніся,
Не скамяней пакутлівым слупом,
Бо слёзы, што заўчасна не ліліся,
Гамору не ратуюць і Садом...

Якая вера? – Бачыш, бездань ззяе,
І грае, і смяецца, і трымціць,
Там груганння раз'юшаная зграя
Твае сляпыя вочы будзе сніць.

Ужо мяжа збавення за спіною,
На плечы важка небыццё лягло,
І на Галгофу шлях вядзе ізгоя,
Там хеўры выць: «Распні, распні яго!»

Хацеў быць лепшым? –
Будзеш самым горшым,
Бо чалавецтва ўжо не ўратаваць,
Яму давай відовішча і грошы,
Цябе ж, наіў, так лёгка абылгаць.

Пакінь Садом, пайдзі не азірніся,
Тваё сумленне – клопатная рэч...

А перад свіннямі... навошта бісер, –
Хрыстос падумаў дый падаўся прэч.

## Спроба збавення

Гэта хворая душа
не ляціць — паўзе ляніва
У вугол свой палахлівы,
як вужака. Там – мяжа,
Там струна знаходзіць гукі,
а крыло чакае ўзмах,
Зацякла зямля і рукі
ах чужынскіх апранах.
Гэта кволая надзея —
толькі свечачка ў куце...
Мае выселкі радзеюць
у знікомай цемнаце.

## Вольніца

Ах, якая вольніца, —
Крылаў не падняць,
Напявае воля мне:
«Крылы не баляць».

Не баляць, а цешацца
Небам, як лязом,

Бізунамі свецяцца
Недзе над гарбом.

Ах, якая вольніца, –
Ножык пад рабро,
«Заспяваем, золатка?»
Сківіцы звяло.

«Загаворыш, золатка?»
Ліхаманка б’е,
То сярпом, то молатам
Ды па галаве.

Ах, якая вольніца, —
Дурням векаваць,
Разышліся Нехрысці —
Некаму збіраць.

**Вецер**

Белы войнік, чорны мніх,
Замяло пургой усіх.
Зачыніліся двары,
Дзе паснулі ваяры.

Вее, вее вітруган,
Хто схаваўся —
    той і пан,

Хто да лесу —
    той і воўк,
Шэры воўк ад ветру змоўк.

Сее, сее, сее ноччу
Дождж салёны —
    крык сірочы.
У сарочках пад дажджом
Крочым, крочым за крыжом.

Моўчкі, моўчкі,
    мы — краты,
Я сляпая, як і ты,
Я — нямая,
ён — нямы, —
Ветрам скутыя грамы.

Жоўты прывід —
    поўны месяц,
І яго змаглі павесіць,
Ён — навец,
і ты — навец.
Ён пачатак,
    ты — канец.
    Мроіць пуга па сніне,
    Мроіць цэгла па сцяне...
    Белы войнік,
    чорны мніх —
    Замяло пургой усіх.

* * *

Камяніцай іду, камяніцай,
А пад сэрцам крывавіць пячаць,
Быццам першая ў свеце агніца
Ці апошняя зорка ў вачах.

Пустазелле вакол, пустазалле,
Камяніскі, як вочы сляпых.
Млын стары ўжо не меле зерне,
А з пяском перамешвае жмых.

Мне хусцінку на скроні сівыя
Не накіне зняверaны мніх,
Толькі вецер жалобна завые,
Да плячэй дакранецца маіх.

Толькі рэха званы патрывожыць,
Толькі вечар нацягне струну, —
Я шукаю ў краіне астрожнай
Тых, каго берагла і люблю.

Я гукаю ў краіне астрожнай,
Я шукаю ў краіне нямой
Сем братоў маладых і прыгожых
І пярсцёнак вясельны свой.

Камяніцай іду, камяніцай.

* * *

Чорны попел, чорны попел,
Я даўно збіраю кроплі,
Ад дажджу жарыны змоклі,
А крыніцы — без вады.

Чорны верас, чорны верас,
Я даўно шукаю веру,
А брыду я ў панявэрцы
На бацькоўскія клады.

Чорны бусел, чорны бусел,
Я даўно спяваць баюся,
Пагубляла словы, мусіць,
Дай мне песню без нуды.

* * *

Адгарэла, адстагнала.
Адцярушыла пяском.
Я ў лясы сусвет прыбрала
І звязала пояском.

Дзе вы, рукі,
    дзе вы, крылы? —
    Спавядаюцца зямлі,
А бацькоўскія магілы
Прарастаюць на раллі.

* * *

Я вярталася ў першы свой дзень,
Ідучы праз чысцілішча вечнае,
Быць хацела сястрою звявечаным…
Я вярталася ў першы свой дзень.

Я вярталася ў родны свой дом, —
Сустракалі мяне толькі рэчы,
І люстэрка так недарэчы
Закруціла праменні вузлом.

У куце дагарала свечка,
Некрануты адвар на акне.
І бялюткая цёплая печка
Пачынала трызну па мне.

Я вярталася полем скалелым,
Галасіла, стагнала, раўла,
І я ўкленчыла, як умела,
І цяплом дыхнула ралля…

Я вярталася ў маміну веру,
У спрадвечную веру сваю.
Да апошняга ўздыху і нерва
Разбівалася аб зямлю.

* * *

Партрэт падобны на мяне, —
Усе шляхі матуля бачыць,
Яна спакой не ўскалыхне
І не парушыць вечнасць плачам.

Цераз вякі я ўбачу сон:
Кладзецца промень светлай смагай,
Я на руках тваіх расой,
Ты на плячах маіх адвагай.

Зноў цераз вечар мост пралёг,
Нібы пярынка, крок за браму, —
Бяжыць, не адрывае ног,
Матуля па прадонню рамы.

* * *

Мой дом гарыць, —
Ратуйце, людзі, птушак
І птушанят у гнёздах пад страхой,
Яны павінны жыць,
Бо гэта нашы душы
І наш палёт
Над вечнаю ракой.
Ратуйце, людзі, іх, —
Такіх безабаронных
І непрытомных, як
Апошняя зара,

Мяне ўжо там няма:
Трымціць мой свет шалёны —
Ружовы і зялёны,
Як грыва у каня.
А птушкі паляцяць
Туды, дзе вечар сонны,
Дзе травы, як сурма,
І знічкі на вадзе...
А дом усё гарыць,
Жахлівы і чырвоны, —
Мо карабель праклёнаў,
Ці вугалёк надзей.

* * *

Адна зямля падставіла рукі,
Каб не ўпала на дол.
Ліўся дождж, і кропляў мудрыя гукі
Загаворвалі боль.

Другая зямля ратавала слова,
Дзе вусны агнём пякло,
Дзе птушка ляцела, ляцела на волю,
Шукала жытло.

І гэтыя белыя, чыстыя строі —
Зары светлы ўздых —
Выткалі мне дзве зямлі, дзве долі,
Дзве песні маіх.

* * *

Ляціць жыццё. Зіма майструе сані,
Апошні ліст прылёг пад абразы,
Я халады сустрэну не радкамі,
А падсвядомым прысмакам слязы.

А клён палаў, было яму так светла…
Мінуламу малюся наўздагон:
Запомніце мяне, вятры і вербы,
Маю празрыстую, як сіні дзень, далонь.

Запомніце шалёнай і шчаслівай,
Дзе па шчацэ не скоціцца сляза.
Я сёння ліўнем, светлавокім ліўнем
Прыйшла, каб восені «прабач мяне»
сказаць.

Бо заўтра стану пералётным снегам,
Завею ноччу паркі і сады
Нагбом я вып'ю міласціну неба —
Твае гарачыя няўлоўныя сляды.

# ПЕСНІ КРЫШТАЛЁВЫХ ЗОРАК

## Дождж

Часам мне здаецца,
Што ў гэтым свеце
Ёсць нешта ад вялікага акна,
За якім несупынна ідзе дождж:
Дзень за днём, ноч за ноччу…
Хочацца разбіць шыбу,
І працягнуць руку,
І спаймаць дождж у далонь,
І адчуць яго спакуслівую вастрыню…
Але вораг мой — жах.
Быццам вялізны кулак,
Ляціць, каб ударыць
У безабаронны твар.
А за акном ідзе дождж,
А за акном адлятаюць птушкі.
Яны хаваюць ад мяне тое,
Што далёка за даждж
І пра што не прынята гаварыць уголас.

* * *

Была вайна.
І ўсе змагаліся,
І ўсе марнелі,

І ўсе паміралі.
Гэтая вайна была з мышамі,
А кіраваў мышыным войскам
Найагіднейшы мышыны кароль.
Але нарэшце прыйшоў маленькі хлопчык,
Ён узяў сваю маленькую рагатку
І стрэліў мышынаму каралю
Проста ў левае вока.
І загінуў мышыны кароль.
І скончылася вайна.

**Вежа**

Вежа старая — прыстанішча соў,
Прывідам-здзекам вачніцы пустыя.
На брукаваным адбітку часоў
Катаржны поступ стыне.

**Восень**

На кульгавым стале
Пакінула восень сваё рыззё.
Павуціннe абляпіла паперы і лісты.
Лета памерла ў зморшчаных сотах.
Апошняя пчала
 павісла ў пятлі з павуцінавай ніткі.
Восень…

**Яблыня**

Бабуля мая — яблыня.
Кожны яблык з болем і радасцю
выношвала,
Зялёны прыціскала да сонца.
А потым яблыкі падалі на зямлю,
Каб прарасці новым жыццём.
Бабуля мая — яблыня.

* * *

Аднойчы лета пакрыўдзілася на людзей:
І змоўклі птушкі,
І схаваліся ў свае хаткі пчолы,
І пажоўкла трава,
І загарэлася лістота...
Лета пакрыўдзілася на людзей —
І захварэла.
Восень — гэта хворае лета.

* * *

Маё змярканне яшчэ далёка,
Але чамусь я бачу яго несупынна
Ва ўсім навокал:
У ранняй халоднай восені,
Птушках, якія адляцелі ў вырай,
не развітаўшыся,
У састарэлай, пажоўклай лістоце.

Яшчэ — у невясёлых, стомленых тварах,
Якія праплываюць занадта павольна,
Нібыта ў сне,
Побач са мной і вакол мяне.
Я так даўно не бачу
Шчырых, шчаслівых вачэй,
Яны, мо халодныя люстэркі,
Аддаюць, не шкадуючы,
мой уласны адбітак.

* * *

Адляцела,
Адарвалася,
Абарвалася,
Заірдзелася,
Загарэлася,
Закрывавілася
Песня мая —
Плашчаніца.
А здані?
А зманы?
А замкі? —
Ляглі, як шаўкі.
Каля ног —
Вечар-змрок.
Ветру рог
Студзіць яе,
Судзіць мяне.

Нас сцерагуць.
Як нам жыць,
Як спяваць,
Як заснуць?..

* * *

Гэтая страла„
Заляцела ў прыцемкі,
Духмяны яблык сусвету
Раскалола на дзве паловы:
Дзень і ноч.
Здаецца, з гэтага часу
У мяне будзе два жыцці —
Белае і чорнае.

* * *

Мая дарога — яшчарка,
Яшчэ
Няўтольнае святло з вачэй.
Як наталіцца мне
Такой дарогай?..

* * *

Усё мітульга і падман.
Усё, акрамя вернай ракі.
Яна, як рука:

Трымае маю маленькую у сваёй вялікай.

* * *

Гадзіннік спыніўся на літары «А»:
Апантаны лёс дастаўся мне
Ад змоклых арабінавых галінак,
Агрэст у закінутым бабульчыным садзе
Адчайна чакае ад мяне першае салодкае
«ам», —
А я так доўга іду дадому.

* * *

Хочаш, я раскажу табе казачку?
У ёй няма пачатку
І, тым больш, канца.
Проста жыла-была дзяўчынка.
Жыла-была птушка.
Жыла-была... Проста...

* * *

Я — новы твор.
Твор з незнаёмым тварам.
Не пазнае
Тварэц сваё тварэнне.

* * *

Тры чалавекі жывуць ува мне:
Чало першага чырванее —
Яму сорамна за мяне.
Чало другога чарнее —
Яму балюча за мяне.
Чало трэцяга свеціцца —
Яму радасна за мяне.

* * *

Заблукала ў лесе надвячоркам:
Ніяк сцяжыну запаветную не знайду,
Але бачу — тры прагаліны
І на кожнай з іх — брама.
За першай жыве змяя,
Ды не хапае ёй мудрасці;
За другой — крумкач,
Ды не хапае яму літасці;
За трэцяй — воўк,
Ды не хапае яму смеласці.
Да якога гаспадара зайсці,
З кім світанку дачакацца?
Стукаю ў першую браму —
Ды змяя джаліць мяне.
Стукаю ў другую —
Ды крумкач гоніць мяне.
Стукаю ў трэцюю —
Ды воўк хаваецца ад мяне.

Блукаю па цёмным лесе,
Шукаю дарогу.

* * *

Ляцела зязюля за сіняе мора,
за высокія горы,
Дзе неба з зямлёй цалуецца
І вецер паўднёвы да хвалі белагрудай
Сватоў сваіх засылае.
Ляцела зязюля без дарогі
Праз імглу і стрэлы вострыя перуновыя.
«Дзе доля твая?» — шапацелі крылы,
«Дзе помста твая?» — мільгацела маланка,
«Дзе смерць твая?» — завываў вецер.
А зязюля ляцела і ляцела,
ляцела і ляцела...
Недзе далёка засталіся гняздоўі родныя,
Бацькі і птушаняты малыя...
«Буду ляцець, пакуль моцы хопіць, —
думала зязюля, —
А калі крылы слабець пачнуць —
Назад вярнуся».
Шмат дзівосаў розных зязюля бачыла:
І як мора гарыць, і як агонь вадой ліецца,
І як зямля агнём палае.
Птушкі прыгажосці казачнай
Да сябе ў госці яе звалі, —
Але нідзе яна не супынілася,

Ні да кога душой не прыкіпела.
Ляцела зязюля за мора,
А чаго шукала — і сама не ведала.

* * *

Змайструю сабе драбіну,
Каб падняцца пад самае неба.
Пагляджу з вышыні на зямлю:
Усё на ёй такое маленькае і кволае,
Мітуслівае і ненадзейнае…
Можа, назад не вяртацца?
Змайстравала б сабе драбіну, —
Толькі шкада цябе.

* * *

Раскрыеш свой шматколерны парасон
Над маім белым светам,
І стане ён чырвоным і сінім,
Ружовым і зялёным…
І паляцяць жоўтыя дзьмухаўцы
А я буду ляцець і ляцець,
Ляцець і ляцець,
Ляцець і збіраць жоўтыя дзьмухаўцы
Пад тваім шматколерным парасонам.

## Ліст

Мне верыцца,
Што хутка я атрымаю ліст,
Якога так доўга чакала.
І тады мая парожняя паштовая скрынка
Нарэшце зацяжарыць.
І будзе гэта восенню,
Калі ападзе апошні ліст з дрэва,
А яго падхопіць вецер
І асцярожна пакладзе
На твой пісьмовы стол.
Ён засне разам з табой,
А за ноч пераўтворыцца
У чысты ліст паперы,
Які так будзе нагадваць
Пабелены першым снегам
Краявід за акном.
А ты прачнешся раніцай,
Паглядзіш на белы аркуш паперы
І ўспомпніш, нарэшце,
Як даўно не пісаў мне.

* * *

Доўжыцца лета ў тваіх далонях:
На адзін зялёны ліст і подых ветру,
На сарамлівую, адчайна-пякучую хвалю
І спякотны сонечны ўздых.

Ты ведаеш, што я жадаю цябе
Яшчэ мацней за мора,
Якое цалуе зараз мае босыя ногі.
Я жадаю цябе, але чамусь ганю ад сябе
несупынна
Усё далей і далей, далей і далей.
Кожную гадзіну, кожны дзень, кожны год,
Праклінаю й блаславляю ўадначас.
І цягнецца гэта бясконца,
Як вечнасць імгнення.

* * *

Папрасіла ў птушкі вочы, —
Стала птушкай.
Папрасіла ў ветра крылы, —
Стала ветрам.
Папрасіла пацалунак, —
Дзе ж ты, мілы?..

* * *

Твой позірк —
Проста шклянка,
Шклянка з шыкоўным вінам,
Шалу там, шалу…
Але ж… шкло.

* * *

Мой пяшчотны, прашу я, цішэй,
Бачыш, наш сынок спіць
І сніць каляровы сон,
Намалёваны развітальным танцам
Недзе на парозе світання.
Заплюшчы вочы
І прыслухайся да яго сну...
Чыстае-чыстае поле,
Бела-жоўтыя сонейкі — рамонкі,
І свеціць вялікае, ласкавае вока,
І шапоча нешта знаёмае вятрыска,
І змешвае нашы валасы з праменнем.
А мы ўсе разам ідзем
Па чыстым-чыстым полі.

* * *

Я — твая.
Я — трава.
Трушчу нечысць.
Трываю вечнасць.
Вер мне.
Вер.
На вараным кані вярніся.

* * *

Шукаю сваю птушку на паўночным,
халодным небе, —
Але толькі тут глыбокія, вільготныя ямы
яе вачэй.
Шукаю сваю птушку на паўднёвым,
гарачым небе, —
Але тут, у крышталёвай хатцы,
толькі яе крылы — пёрка на пёрку.
Шукаю сваю птушку...
І толькі на сёмым небе, дзе старое
бабуліна гарышча
І капяжы ліюцца несупынна
са спарахнелых стрэх,
Хаваецца мая птушка.

**Цярновай зорцы**

Пакладзіце яе на траву,
Каб не разбілася на шкляныя ліхтарыкі,
Каб успомніла, кім была
І кім яшчэ будзе.
Падстаўце свае далоні,
Гарачыя і пяшчотныя,
Захініце нябогу ад ветру.
Бачыце — у яе непрытомныя вочы,
Блакітныя і бясконцыя, як жыццё.
І як шлях да бездані сонца,

Як замова ад бездані ночы —
Сірочыя вочы.
Няхай хоць да першага променя
Пасціць.
Бо так нялёгка свяціць
Усім, хто збочваў з дарогі.

* * *

Пастарэла, пастрайнела,
Як струна гару на сонцы,
Намалюю шлях бясконцы
На эцюдзе акварэльным.
Я сябе малюю ў кветках,
А цябе ў кавярным дыме...
Вось такая выйдзе вечнасць.
Вось такія успаміны.

# ПРОШЧА

* * *

> Дом, это значит: из дому
> в ночь...
>
> *М. Цвятаева*

З дому бягу
Па расе, па снезе.
Такая гульня
У маленькіх-дурненькіх:
Будаваць дом
У лесе, у полі,
Паўсюль, дзе ветру даволі,
Дзе столя — нябёсы,
Дзе сцены — шаты,
Такі дом мне б мець,
Такі дом ладны.
З дому бягу,
Як промень ад сонца
Цалаваць шчаку
Першаму ў вёсцы аконцу.
Цураюся покуці:
Шчур ёй,
Мне — каптур,
Дзе неба дыван
Дзінькае птушынымі галасамі —
Музычнымі скрынкамі,
Сонечнымі радкамі.

З дому бягу,
Куды вочы глядзяць, —
Дзяцел склікае знаёмых,
Сясцёр, братоў невядомых.
Спяшаюся па расе
Ў гасцінны той дом паспець.
Там промень пяшчотны,
Там вецер шаўковы,
Там вольныя ўсе галасы
І родная мова.

* * *

Бездань ночы
Шчэрыць пашчу,
У той ночы
Плечы насцеж;
У той ночы
Вусны-вёсны;
У той ночы
Рукі-кросны.
Ясны месяц
Яснай пані:
«Пацалуй,
Калі не камень».
У той ночы
Вецер-войнік:
Замілуе,
Як дагоніць.

У той ночы —
Чысты човен:
Сядзеш плыці
І не ўспомніш —
Як імя тваё,
Дзе вугал, —
Знепрытомніць
Сэрца ў вугаль.

* * *

Жывой буду —
Не забуду
Гэту памяць,
Гэту згубу...
Там, за полем —
Гай, гай,
Толькі ў лесе —
Рай, рай.
Райскі мой яблык,
Вусны салодкі,
Вочы, як смоль,
Ночкі кароткі,
Ночкі-сіроткі,
Ночачкі-свечкі,
Вострая памяць —
У сэрцы засечкі.
Вусны смяюцца,
Сэрца рыдае,

Ночачкі-свечкі
Днём затуляе.
Вочкі заплюшчы
Шчыльна і шчыра,
Можа, ўспомніш
Белыя крылы.
Поле і гай
У руках гайдай,
На плячах трымай
Зялёны наш рай.
Гаю-гай,
Гайдай,
Сірацїну ўспамінай.
Гаю-гай,
Гайдай,
Гайдай,
Гаю-гай…
Толькі не перакінь,
Толькі не цераз край,
Душу зграі не аддай.

Жывой буду —
Не забуду…

* * *

> Вы думаете, любовь —
> беседовать через столик?..
>
> *М. Цвятаева*

На краю стала,
На краю зімы,
На краю зямлі
Загубіўся ты.
Дагукацца як,
Даімчацца як
Ночкаю палыновай
З ветахам на дубах?
Ястрабам у горла смага:
Дзе твая рука?
Вострыя снягі лягуць,
Як рака.
Памяццю сціснуць плечы
На замок, —
Так толькі каты лечаць,
Галубок.
Кленчу, змораная маўчаннем,
Напіцца як,
Калі ў той ракі,
Як у смагі,
Горкі смак.
Рэха цябе шукае
Уздоўж ракі.
З прыгаршчы п’ю світанак
І вякі.

Кінуся ў шэры горад,
Пыл, смурод,
Любы, няўжо не ўспомніш
Пасярод?
Пасярод зямлі,
Пасярод зімы,
Пасярод стала —
Я.

* * *

Вочы, вочы — ваўкалакі,
Ні прывету, ні падзякі,
Кінуць камень у ваду,
Прывядуць з сабой бяду.
Вочы, вочы напрарочуць
Дождж салёны, дождж сірочы,
А пасля — лясны мурог
І дарогу нам на двох.
Вочы, вочы, дзе мне дзецца,
Калі памяць б’е пад сэрца,
І крывавіць далячынь,
І пяе-заве лагчына:
«Дзе дачка твая, дзе сын?»
Вочы, вочы, свет — адзін
Для ваўка і чалавека.
Так шукаць сябе адвеку.

* * *

Прошча — прашчурам спакуса.
Плошча — нам,
Вятрамі глушыць
Крык шалёны вербалоз,
Душыць словы, слёзы,
Скрозь
Зноў навец-скразняк на плошчы
Снег над прорваю палошча,
Суцяшае:
«Будзеш жыць,
Покуль жылка ў шкле дрыжыць».
Жывучы з каханым поплеч —
Басанож ідзем да прошчы.
У адной кашулі ўроссып —
Зноў будуем дом на плошчы.

Прошча — прашчураў спакуса,
Плошча нас вятрамі глушыць...

* * *

Мне сон прысніўся, быццам вецер
Цярушыць снег на плечы вокан,
Маё збавенне — гэты вечар,
Пакуль жывая і не змоўкла.

Мая краіна — за лясамі
І за гарамі — век палёту.

Ірвуць маўчанне галасамі
Там рукі і званы, а потым

І лес не лес, а шлях у песню.
Крок да сябе — адвечнасць тайны.
Адвечнасць голасу ўваскрэснуць,
Сцяжына воўчая — вяртанне.

Мая краіна — вольны ветразь,
Яшчэ — трава, яшчэ — нябёсы...
А я лячу дарогай ветру,
І ў валасах іскрыцца восень.

**Шпакоўня**

У кашулі адной — нядужыя.
Мо ссівелыя, ссохлыя ружы,
Перазімаваць разам думалі,
Хаваліся разам ад сцюжы.

Што ўбачылі раніцай?
Мойры звязалі ў клубок
Нашы рукі і памяці,
Нашы імёны і зрок.

Ног не расплясці,
Рук не разарваць, —
Спаць спакайней,

Калі побач не спяць.

Дыхае нехта на шкло —
Цёпла рукам і каленям,
Толькі адно акно,
Іншыя — сцены.

Сны пра няўдалы дзень —
Дзеці яшчэ ненароджаныя,
Наша шпакоўня — агмень,
Лёдам вакол агароджаны.

Выстуджаны з бакоў,
Тонкі, як чараціна...
Не баяцца б нам скразнякоў,
Абматацца б адной пупавінай.

Хто каму вінен і што?
Зноў шпакоўню прыціснулі шлягай,
Будавалі гадоў на сто,
І атрымалі — смагу.

Займелі хмару соў,
Папялішча на папялішчы,
Наша зграя хворых ваўкоў
Толькі ветрам была на гарышчы.

Нішчыць цэлы сусвет прасцей,
Чым схаваць у далонях вецер...

Мы з табой — жабракоў ланцуг,
Зацугляны пад сэрца.

**Клетка**

1
Кленчу перад клеткаю,
Тку кашулю днём,
Дно такое крэпкае,
Дом такі не дом.

Крылы ладжу зацемна,
Вечарам палю,
Закручу старацелю
Мёртвую пятлю.

Закрычу адчайна я,
Ірвануся ўверх, —
Толькі зноў падпаліна,
Зноў з нябёс ды ў грэх.

Рэха арбалетнае
Голасам чужым:
«Можа, гэта клетка
Вокнамі дрыжыць?..»

2

Клетка адчынілася —
Зоркі ткуць сяйво,
Будзем слухаць вецер,
Слухаць хараство.

Пераспелых ветахаў,
Што суладны снам,
Водар не хаўтурны,
Не атрутны нам.

Клетка адчынілася:
Снілася, было?
Майстраваў хто крылы,
Хто трымаў вясло?

Слотным днём і ноччу
Ўсхліпам па шчацэ
Кволае цяпельца
Жэўрала ў руцэ.

**Гара**

1

Калі не ўкленчыць, — пройдзе боль
Пад першаю гарой,
Мяне гукаў ты столькі дзён
І зноў не ўзяў з сабой.

Калі касу не расплясці, —
Спатрэбіцца пятля,
Я пад гарой агмень прасіць
Не стану ў караля.

Ляжыш пад трэцяю гарой,
Змарнелы волат — ты,
А я не ў змозе гараваць,
Шукаць твае сляды.

Як на чацвёртую ўзыду,
То буду ведаць, дзе
Ты захаваў свой лепшы скарб —
У небе ці ў вадзе.

2
Ноч,
Крочыш нячутна
Змораны зборамі ты,
Восы мышынымі норамі,
Пакінутым горадам
Пазіраюць з-за той вярсты.
Ненаціснуты ў цемры званок,
Як зарок ад вяртання,
Там чакае безліч дарог,
Дзе мая — не пытаеш.
Неруш —
Ложак спустошаны,
Белае цела

Раскідалі мяцеліцы
Па вуглах.
Пацеркі рассыпаліся па падлозе,
Закалыханыя на страту месяцам,
На здраду табе,
На страх.
Ноч...

3
Вось табе казачка,
Першая дзея:
Дзе ты, дзе я?
Ты — толькі рукі пад снегам,
Пад сонцам — я —
Яшчарка каля рук тваіх.
Так халодна спіне...
Толькі спяваць не прасі —
Песень няма ўжо ў мяне.

4
Новы кароль — герой,
Ён не любіць стаяць пад гарой,
Але ведае збрую ў каня,
Дзе пастка і дзе браня.
Новы кароль не крыўдзіць,
Толькі спявае на прызбе,
Дзе прыйдзецца і дзе прадзецца —
Песня кранае за сэрца.

5

Дарма ты выбіраў касцёр,
Дарма, мой свет-зара,
Бо я была — адно жыццё
І як адна сястра.

Дарма спяваў, як салавей,
Дарма, мой брат, дарма,
Бо я была, як сто глухіх
І як адна зямля.

Дарма сцяліў ты мне мурог,
Дарма, мой Лель, дарма,
Цябе кахала сотня змей
І любая адна.

6

Сэрцавіна свету — вясло,
Весляры — вясёлыя хлопцы:
Лашчаць, быццам променяў сто,
І сто першы на потым.

З веслярамі — вада не вада
І бяда не бяда, а дотык…
Патаемная мара мая
Патанула, як восень.

7
А прачнуся — ў руках вясло
І карона стаіць на стале,
Гэта ўсё — падарунак не мне,
Гэта ўсё — водар памяці.
Зменлівы твар у жыцця:
Толькі ўчора — любая,
Толькі ўчора — птушкам сястра,
А сёння — чужая зямля,
У якой загубілася.

* * *

Шнар-ашуканец,
Восень-сястра.
Дзе тая рана,
Дзе тая я?

Што там пад скурай,
Жаўрыць жыццё?
Жыва склікае гасцей
І пярсцёнак

Дорыць на шчасце
З правай рукі.
Толькі б каханне
Не папрасіць.

Сечанай, мечанай,

Скручанай ў рог,
Што пакладзе
На паліцу Сварог?

На папялішча, на рану,
На шкло...
Можа, пад шнарам
Толькі ярмо?

Быццам збавенне
Памяць гарыць:
Усё перамеліцца,
Вечнае — жыць.

* * *

Баліць спіна — там будзе месца крылам,
Там будзе месца ветразям спакусы,
Свае нябёсы восенню адкрыла я
І вось цяпер чаўны дабром пакую.

Зязюля кукавала мне даволі,
Зязюля — забабонная старая,
Я ў неба вырываюся паволі,
Я ў неба за сабою не гукаю.

Галёкаць там — не хітрая навука,
Навучаная здрадай і падманамі,
Прашу ў твайго нацягнутага лука я

Не ператворваць птушак на падраненых.

Спіну схаваю, а руку падстаўлю,
Страла, свінец ўжо шкоды не наробяць,
Калецтва рук мне сёння не падстава
Баяцца неба і зямлі не помніць.

Сваё імя чытаю на скрыжалях
І крыжаной вады напіцца мушу,
Мой стрыжань вырываецца стрыжамі
І на зямлі не пакідае крушняў.

Баліць спіна —
Там будзе месца крылам.

# БЕЛЫЯ КРЫЛЫ НОЧЫ

## Вокны

1
Там, дзе сцены зламаюцца —
Плечы падставіць акно,
Абвянчае нячутна з вечарам,
Келіх напоўніць віном.
Мы пачнём новы дзень на ўламках
І новую ноч...
Толькі вось не збірай чарапкі,
Новы свет у акне не сурoч.

2
Твае вокны цёмныя-цёмныя,
Можа, гэта з-за бяссоння вачэй?
Крылы ночы белыя-белыя, —
Ноччу кормім з рук лебедзяў.

Што прынясе новы дзень?
Першую сустрэчу з летам,
Перакідны каляндар
Паляцеў на Купалле як вецер.

Цішыня цешыць сэрца —
Так ніколі яшчэ не было.

У полі б кахацца ў высокай траве,
Там, дзе кветкі, як сосны.

Заплюшчы вочы — пабачыш краіну,
У якой яшчэ ніколі не быў.
Пупавіну згубіў ты даўно…
Мы ідзем па дарозе дадому.

3
Варажы, мой любы, варажы,
Я стамілася ўсё жыццё чакаць:
Мая птушка села на мяжы,
Мая птушка вольная спяваць.

Верасовым водарам вянчала,
Ратавала крылы і радкі,
Шчодрая, пяшчотная, чужая,
Мачаха-зямля, мяне не скінь

З велічнага светачнага храму, —
Ён даруе слёзы і грахі
Закаханай у зямную птушку-мару,
Закаванай у вярыгі і шаўкі.

4
Вось ты трымаеш ветразь у руках,
А можа, клетку, я ніяк не ўспомню, —
Мне сон прысніўся на сямі вятрах,
А восьмы громам мой сусвет напоўніў.

Твой твар бялеў, а вочы спапялялі,
Так горача, так голасна, так шкло
Дрыжала і слязой маёй гуляла,
Так кола сонца бегла за сяло.

І я нібыта страціла прытомнасць:
Была рака, і вечар, і зара,
І неба-смага пад рукой няўтольнай
Няўтомнага святога ваяра.

А я была расою і сцяблінай,
А ты быў ветразем, і ноччу, і святлом…
Калісьці мяне звалі, мабыць, Інай,
Калісьці мяне ведалі ваўком.

І вечнасць паглынула нас у нетры,
І не ўтрымала бура паясок…
А мы ляцелі па дарозе ўверх і
Дажджом ліліся ў залаты пясок.

Вось ты трамаеш ветразь у руках…

* * *

Калі стомяцца вочы твае —
Вазьмі мае.
Калі табе не зімна,
А пранізліва-пяшчотна,
Калі табе самотна,

Калі табе не ўсхліпу
І не ўздыху,
Калі замест свежага ранку
Ліха,
Ліхалеццем,
Веццем,
Счарнелым і зморшчаным...
Росчыркам шчасце, —
Не вечна,
Але... велічна.
Нерушам поле,
Яго нам на двох даволі.
Вечныя вочы — воля.

* * *

Миленький ты мой,
возьми меня с собой...

Абяры мяне рабыняй,
хоць нялюбай, ды сваёй, —
Рудніковы бераг сіні
разгуляецца за мной.
Раскрываваіце зарою,
раскідаецца травой
І закрые адмысловы
незваротны мой спакой.
Рукі рэжа, цягне вецер
і звіваецца ў вянок.
І пярсцёнак алавяны

мякка падае да ног.
А мой крык крыжынкай ляжа
у абдымкі крумкачу...
Нажавой прастрэліш фразай:
«Я рабыні не хачу».

* * *

Дзе далёка да сусвету,
А да твару — толькі подых,
Ты пра нас спяваў санеты,
Я пра нас складала оды.

Дзе ў шалёным акіяне
Скарбаў мы на борт не бралі.
Гаравацъ не ўмелі хвалі —
Пра галоўнае маўчалі.

Дзе святлее вугал ночы,
А дарога — шлях пташыны, —
Гаварыць не ўмелі вочы,
Гаравацъ мы іх навучылі.

* * *

Пякуча, балюча,
свет — здраджаны рай,
Народзіцца хлопчык,
а ты — памірай.

А ты — ветру казкі,
а ты — поўні снег,
Не Божая ласка
дарункі твае.
І неба, як глеба,
на плечы лягло, —
Я твару прыпомніць
не ўмею твайго.
Мой голас нямее
ў крыклівых дварах, —
Прызнацца не смею,
што кат ў галавах.
Стаіць у чырвоным
і пільна глядзіць,
Каб сына твайго
я змагла нарадзіць.

* * *

Маё сонца ў сэрцы стыне
І на небе ледзьве свеціць.
Адпяяным успамінам,
Адгарэўшым звонам-летам.

Маё сэрца не падманеш
Ясным светачам шаўковым,
Не зашыеш бездань раны
Стосвітанкам стогадовым.

Прабачэнне, прыбіранне —
Шлях сукенкаю з ядвабу,
Чорны снежань, чорны ранак
Увабралі грэх і звабу.

Маё сэрца стыне, стыне,
Здрадлівую п’е атруту, —
У нябёсах птушка гіне,
І ў палях яе пакута.

Ланцугом прыкута сэрца
Да ільдоў аконнай рамы,
А на небе сонца-скерца,
Як цяпельца ў цёмным храме.

* * *

Сівы снежань стаіць ля дарогі.
Ён гарбаты, у футры.
Там падкосяцца ногі,
Дзе ляцела не хутка.

Дзе ўглядалася ў вочы,
А бачыла вольнае неба,
Пэўна, нехта сурочыў, —
Стала каменем глеба.

Заіскрыцца, падымецца песняй-бяссоннем,
Над дарогамі, гмахамі сэрцаў бетонных…

І папросіць матуля: «Дачушка, так трэба,
Неба голас падарыла табе і трэбнік».

* * *

Птушкай чорнай вугаль ночы
Зачапіўся за вакно,
Наілгаў ці напрарочыў —
Перамелецца ў адно.

Перасмешніца лясная
Паляцела ў вочы дню:
Ноччу я цябе шукаю,
Днём сама сябе кляну.

Птушка-памяць, дзе мне дзецца, —
Свечкай рушу па рацэ.
Задрыжыць і перарвецца
Рыска лёсу на руцэ.

**Лета**

Яшчэ не час складаць паэмы,
Не час каштанаў пад нагамі,
Але ўжо дзень за днём нямее,
Забелена трава снягамі.

І галава мая сівее,

І напаўняюся каштанам,
І завіруха сумам вее
З душою напалам аддана.

І рана ў небе палымнее,
І наліваецца бядою...
А я сказаць табе не ўмею,
Што захлынулася зімою.

* * *

Пасцялю на світанку настольнік,
Застануся ў начной сіняве, —
Дзе стагоддзі кранаюцца скроняў,
Дзе імгненні гарачь у траве.

А зярнятка шукае бяссонне,
А нябёсы гукаюць зямлю,
Пасцялю я настольнік, як поўню,
Як глыток залатога: «Люблю...»

# ПА ЗЯЛЁНАМУ Ў НЕБА

* * *

Святло — гармонія душы,
Натоліць сэрца цішынёю,
З якой — аблокі над шашою
І камяні каля шашы.

Я ў цішыні такой канаю,
Праз ноч народжваюся зноў,
Там ёсць адзіная любоў
І, можа, нават дзверы раю.

## Дом на вадзе

Дом на вадзе велічна,
Надзейна, з надзеяй на неба,
Плыве, нібы ласкавае цяля
За сонечнай цялушкай-вечнасцю.
Дом на вадзе сценамі
Кранаецца крылаў аблокаў,
А дахам — сонных вачэй зорак,
Рыбы коўдраю ўсцілаюць падлогу.
Падоўгу спяваем мы з імі
Пра агульныя супярэчнасці ў жыцці,
Аж пакуль не заўважаем:

Нашы таварышкі — нямыя,
І дом на вадзе — човен.
А човен — дошка,
А дошка — сцябліна,
А сцябліна — павуцінка,
А мы... больш не мы.

**Дзве ракі**

Дзве ракі — не дзве рукі,
Першая — родная, другая — бязродная,
У адной сусветам хвіліны, у другой — вякі
Каранямі спляліся, падаюць чырвонымі
кронамі.
У якую раку увайсці, каб з дарогі не збіцца,
Каб не захлынуцца, не адляцець у вырай,
як лісце?
У якой рацэ вір, а ў якой жывая крыніца,
Дзе адбітак мой на люстраных шпалерах
не выцвіце?
Там, дзе прашчуры на акно паставяць
грамнічную свечку,
Дзе крумкач на плячо, салавей на вечка, —
Вечны мой паратунак,
дарога да сонца і неба...
Падарую вадзе не вяночкі,
а боханы чорнага хлеба.

* * *

Пусці мае рукі з пярсцёнкам на медзі,
Бяжы ад мяне да прытулку нябог,
Схавай шчыры погляд у бездань, —
я — ведзьма,
З дарогі сыдзі, не пусці на парог.

Дзе неба, як вочы, а вочы, як неба, —
Там восень снуе павуцінку тугі.
Пусці мае крылы па беламу хлебу, —
Па беламу полю чарнеюць снягі.

Крычы не крычы — груганнё адзавецца,
Заб’ецца пад сэрца, прызначыць даўгі...
Імя тваё ўспомніць стрыножаны вецер,
А вольны спачыне на травах тугіх.

**Агмень**

1
Сушы свае вёслы, агмень-сухавей, —
Так бачыць, і дыхаць, і лётаць вальней.
Дарослаю стане дзяўчынка-душа,
Як слова сівое сарвецца з каўша.

2
Вею-вей вечнасці,
Дзе сусвет ссечаны,

Дзе кішэня без дна, —
Там душа не адна.

Бура, бура, барані,
Песні вольныя мае, —
Той агонь спапяліў,
Які яблычкі спаліў.

3
Вокнамі, вёсламі, вёснамі — шлях,
Слухай, шляхцянка, стогн на дубах:
Дзе душа выгнецца, —
Там была шыбеніца,
Дзе сляза воўчая, —
Там двары сурочаны,
Дзе трава мурагом, —
Там твой сябар варагом.

4
Варажы, вужыны цар,
Прынясі карону ў дар,
Ганарысты гаспадар,
Мяне ў сэрца ты не ўдар.

Рутаю-атрутаю
Грудзі мае скутыя.
Чую чары здаля:
Дзе вужака, а дзе я?..

5

Як мурог на парог —
Пераломіць вецер рог,
Усе вятры-рагачы
Як не зломяцца — ссячы.

Ці ты грэшнік, ці ты мніх, —
Джалю вуснамі пад дых.
Ці кароль, ці герой, —
Ляжаш спаці пад гарой.

6

Рукі раскінь, бараніся.
Вочы мае — вочы рысі,
Буду рыскаць па свету —
Зменлівая кабета.

Тысяча вокан глядзяць,
Тысяча зорак гарац
У маіх зрэнках агнём...
Ноч здрадзіла з днём.

7

Ідзем травою след у след
І снегам дзень у дзень —
Дачка лясная і агмень,
Гарыць лісой сусвет.

Агню мой лес не спапяліць,

Не патушыць зару,
Бо ён пяшчотны і нямы,
А я — піццё яму.

Ў яго такі кароткі век,
Маё жыццё — шаўкі.
Спатоляць бездань ля ракі
Агмень і чалавек.

* * *

Лягу ветрам пералётным,
Устану торбай пераметнай,
Сёння — вужам па зямлі,
Заўтра — кветкаю ў раллі.
Упаду зярняткам з рук, —
Падбярэ на крылы крук,
Панясе мяне ў даліну,
Каб я плечы ўкрыла сыну.

* * *

Маўчы,
Так мала вакол цішыні,
Маўчы,
Слухай сэрцам бяссмерце.
Трывай,
Слухай званы,
Павер цішыні —

Будзеш як вецер.
Слухай траву,
Слухай зару —
Будзеш зверам.
Прайдзі запаветнай зямлёй
Побач са мной.
Шмат чаго я не бачу,
Але ў полі начую.
Чую,
Адчуваю
Жылку лістка —
Крылатая я.

* * *

Конь-агонь сэрца рэжа,
Нясе да аблокаў,
Кідае ў ваду,
Вусны мае падаюць
Снягамі чырвоных вежаў,
Золак іх прыгалубіць
На каханне і на бяду.
Конь-агонь, скачы шпарчэй,
У чэрава ночы
Стралою ўразайся,
Спалі сваю смагу
Бяссоннем вачэй, —
На шчасце сынок нам застаўся.

* * *

Новае сэрца тулю да грудзей.
Новае неба.
Крочу далей ад дарог і людзей
Ў пошуках хлеба.

Першаму бохан падасць рука,
А другому — скарынку.
Цераз сэрца цячэ рака,
Бачыш, сынку.

Па зялёнаму ў неба іду —
У траве столькі сілы!
Я да сонца бяду забяру.
Чуеш, мілы?

А грахі прынясу да травы —
Ў ногі кіну.
Ляжа кропля расы і крыві
Успамінам.

## Лясная панна

Яшчаркай выслізну з тваіх рук,
Упаду у траву тварам,
Буду піць расу, кожны гук,
Каўткамі вялікімі, ранай.

Буду піць лясы, галасы,
На полі імчацца ланню,
Ты не бачыў такой красы:
Мае вочы — світанне.

Птушкай лячу нястрыманай, —
Клеткі прыдумалі людзі.
Для усіх і паўсюль айчына —
Неба вольныя грудзі.

Коласам вырасту ў полі,
Крыламі ветру.
Сценам і даху ніколі
Не стрымаць волі ветразя.

Безліч стварэнняў саткана
Ува мне. Не пужаўся — бяры,
Я сягоння лясная панна,
Дачка зары.

* * *

У вырай, у вырай — палаюць зарніцы,
І зоркам халодна свяціць,
Мне рукі сагрэе агеньчык агніцы,
А душу спрадвечнае — жыць.

У вырай, у вырай збіраюцца сёстры,
А восенню вырушу я

На неба стамлёнае — велічны востраў,
Дзе ў белым адзенні зямля.

У зрэнках маіх адбіваюцца песні
Маўклівых сірочых вякоў.
Мы з птушкамі разам на небе ўваскрэснем,
Каб болей не бачыць замкоў.

І замкаў з байніцамі, студняў з атрутай,
Няшчырых, хлуслівых сяброў...
У вырай, у вырай — заве мяне мудры,
Найлепшы з людзей і багоў.

* * *

Мой лес, я табе спяю
Апошнюю песню пра лета,
Мой лес, я тваю зямлю
Укрыю крылом паэта.

А потым блакіт нябёс
Бяссоннем душы пазначу,
Прыму як шалёны лёс,
Як сонечны зваблівы мячык.

Свяціцца ў вачах расе,
Куваць адзічэлым сёстрам,
А я сыду па крысе
У звонкія вечныя сосны.

А я — толькі ветру уздых,
А я — толькі ліст шаўковы,
І зоркі ў руках маіх
Спяваюць на роднай мове.

* * *

Не трымайце мяне —
я тут нядоўга,
Толькі паспею раздаць даўгі,
Не кахайце мяне,
я вашай долі
Не крануся плашчом даўгім.
Даўніна іначыць, а песні мае, —
успамінаеце вочы?
Яны палымнеюць стогнам зямлі,
А не тугою дзявочай.
Ужо крык уразаецца ў хворы сусвет
Стогаловым стрыножаным ветрам,
Я тут на хвіліну,
вы — мой сусед
Па ліўню і гнуткіх вербах.

* * *

А пасля будуць рэйкі
і позні цягнік.
І дрэвы ў снягах па плечы,
Ты застанешся ў лесе,

мой двайнік,
Тут ведаюць слова «вечнасць».
І памяці біцца пад рукой:
Я так ад цябе далёка, —
За небам цёплым, зорнай ракой
І сонечным мудрым вокам.

* * *

Не журыся, ясны месяц,
Я ўцяку з табой да лесу,
Забяру на ночку поле
У вясёлых перапёлак.
А ў вятрыскі залатога
Заляцальніка старога
Папрашу напояў дольных
І хвілінку звонкай волі.

* * *

Да вашага сэрца —
Вёрсты няволі,
Мы пагарэльцы
На гуляй-полі.
Полымя ўецца
Да неба, ды не —
Разбітае сэрца
Не вытрымае.
Думкі мае —

Маяццё, каяццё,
Ускінула рукі —
Маю жыццё.
Белыя крылы
І бровы ўразлёт,
Дзе ж ты, мой мілы? —
Га-ла-лёд.
Кінуся ў вокны вятроў
З парога.
Шалёная кроў
На снягах нядоўга.

* * *

Падкінь манетку —
пашанцуе.
У гэтых вербах
сны начуюць.
У гэтых кветках
дзень ліецца,
А час сычыць:
«Усё мінецца».

* * *

Да вясны — толькі вечнасці крок,
Крык крумкача перад бурай.
Падказала чарговы урок
Мне сівая бабуля.

Вечар поле прымусіў памерці
Да світанкавай чыстай расы,
Дзе мае пералётныя дзеці,
Адзвінелыя каласы?

Дзе мае векавечння сосны?
Струмянее, ірвецца вясна
З кожнай восені паднябеснай,
Адзічэлай зімы вясла.

Разумею, што гэта прымара,
І, напэўна, жыццё да цяпла...
Адлятаю дамоў лёгкай хмарай,
Белым лётам святла.

* * *

Да зары спявалі рукі
      пра каханне,
І лавіла поўня гукі —
шум астанні.
І тужыла завіруха на парозе
І на плечы ўпала ветру
      пры дарозе.
      Да каліны буйны снежань
заляцаўся,
І звінеў калядны месяц,
      спаць не клаўся.
      Калі я цябе, мой любы,

цалавала, —
Поўня ложак лебядзіны
расцілала.
І дарыла кожнай зорцы
па званочку,
Кожнай пані —
па пярсцёначку-паночку.

* * *

Мяцеліца варажыла,
Лебядзіны лён сцяліла.
Люлі-люлі, мая міла,
Над страхою век кружыла.

Векавуха-завіруха,
Дзе каханы твой? Паслухай:
Вечар ў шыбку стукае,
Снег цярушыць мукаю.

* * *

Гэты урок —
зарок ад пытанняў,
Безліч вакол дарог,
безліч світанняў.
Адзіны мой, лічаны —
свечка грамнічная на акне,
Вусны твае — сунічаны,

вei — у сне.
Душамі хмары парушаны,
там наш дом,
Калі запалаюць сцены, —
на чаўне паплывём.
Вёсны — ветразя росы нагбом піць...
Лёс ты мой паднябесны,
няўтольны блакіт.

* * *

Паляцела гукам, ценем,
На зямлі — на згадку — цела,
На далоні — толькі подых,
А на сэрцы — водар, водар.
Лён празрысты льне да твару:
Завару табе адвару.
Ты прачнешся ненаўмысна —
Я лячу, кружуся ў высях.
Звонкі голас перуновы
Запрашае ўзяць абновы
І заве вышэй, вышэй, —
Там, дзе зоркі п’юць з вачэй.
Там, дзе ветах,
там, дзе вера,
Дзе ляцяць па небе дрэвы,
Нараджаюць дзе санеты
Пералётныя паэты.

# ХТО Я, ХТО Я?

* * *

Хто я, хто я?
Мой шлях — сава.
Мяне няма,
Я — сон-трава.

* * *

У вачах тваіх — свет,
У маіх — небыццё,
Я ўвабрала сусвет
У нябогу-жыццё.

Заспявала сава
На зары салаўём, —
Паднялася трава
На магіле маёй.

Лёх, пад лёхам — душа
Прамянее, гарыць,
Наталяю з каўша
І вучу гаварыць.

* * *

Не спі, не спі, —
Ноччу гары,
Днём прамяней —
Успамінай пра мяне.

Гары, гавары,
Спытайся ў травы,
Дзе дарога твая, —
Там я.

Твары, твары
Сусветы зары,
Дзе поўня нагбом,
Там наш дом.

* * *

Вусны — дзічкі,
    беражыся,
Будзе камень —
    схамяніся,
Будзе вецер —
    разгуляйся.
Будзе рэха —
    райся, райся...
Рай на яблык так падобны,
На духмяны чысты водар,
На празрыстую крыніцу,

На мяне і вочы рысі.

* * *

Лячу лагчынай і травой, —
Хадзем, мой брат, у лес са мной.
На цёплых каленях спачынеш —
Натоліш душу айчынай.

Напоіш вусны валогай,
Гай загарне як малога.
За пазухай будзем у Бога,
І нерушам ляжа дарога.

* * *

Вечарэе.
Я — прырэчана:
Быццам ветах,
Сэрца ссечана.
Ружа-кветка
Недарэчная
Па рацэ плыве
Побач з вечнасцю.

* * *

Чараўніца чаравала,
Белым хлебам прыпадала:

«Ці ты ела, ці піла,
Ці пшаніцу сеяла?
Твой сыночак, як ляночак,
А дачушка, быццам грушка...»
Калыхала дзетак «люлі»
І хавала ад зязюлі,
Бо зязюля шэрая
Не жала, не сеяла,
Не кахала, не жыла,
Толькі ў небе лётала.

* * *

Гром, грымі,
Грудзі мае напаўняй малаком, —
Неба з зямлёю мілуецца,
Дом зялёны не цісне замком.

Белы свет, мо святліца,
У якой парадзіха — я.
Неба з зямлёю мілуецца,
Дыхае небам зямля.

Гром, грымі,
У знямеласці вуліц каханне кліч!
Неба з зямлёю мілуецца,
Каб нарадзіўся Зніч.

## Водар сонца

Водар сонца
Нашча сэрца
П'ю я сёння,
Каб не ўмерці.

Вецер нішчыць
Забабоны,
Я ўваскрэсну
Й пад бетонам.

Прарасту,
Распраўлю рукі,
Паднябесным
Стрэльну гукам.

Мне над прошчай
Вольна лётаць, —
Расквітнее
Мая лотаць.

Развітанне,
Кветкі з мёдам,
Нашча сэрца
Сонца водар.

* * *

Цішыня палянамі дыхала —
Адпачывала,
У вяках-скразняках
Боль пракавечны хавала.
Долю ўкладала ў далонь
Даляглядамі, рэкамі,
Завяшчала нябесны агонь
І зямное блакітнае рэха.

* * *

Недалетныя птушкі зары
У вырай ляцяць вечаровы.
Прыгадаюцца вам вятры —
Абдымкі няўтольныя мора.
Вам прыгадаецца восень,
Сіняя строма сасны...
Слухайце шматгалосся
Вешчыя сны.

## Рэха

1

Рэха хавала імя,
рагатала рэха,
Хто ты? Хто я? —
Вечнасці ўцеха.

Рэха хавала душу
ад няпраўды,
Дзе пачынала імшу
здрада.

2

Здрыгануцца б нам ад рэха,
Загарнуцца б у шаўкі,
Ты на край стагоддзя ехаў,
Каб пачуць раскат глухі.

Я ў кутку душы знямела,
Крэйдай вочы падвялі,
Каб не бачыць, як гарэла
Рана рэха ля двара.

* * *

Хіліцца ў ногі трава
пунсовай зары,
А за ракой купавы
купаюцца ў чыстым агні.
Знямеюць вочы,
а крыгі
Крыніцы натоляць вадой...
Там, за ракой, адліга
І пацалунак твой.

* * *

Калі зоркі цьмяна свецяць,
Калі неба надта нізка,
Пазаві мяне, мой ветах,
Стану я тваёй калыскай.

Пазаві мяне, мой ветах,
Калі ладзіць краты бура,
Па далонях вогкіх кветак
Прарасту ў няўмольнасць турмаў.

Калі вечнасць адзінотай
Затуляе твар і вочы,
Да цябе лячу дрымотай —
Птушкай сумнай проці ночы.

* * *

Днём малявала сонца,
Ранкам — зару.
Ноччу сляпому аконцу
Вочы свае падару.

Я — для стомленых веяў
І для згарбелых плячэй
Вымалю ўздых завеі,
Каб струмянець лягчэй.

Ляжа вятрыска кудлаты

Каля ног шчанюком.
Зноў нястрымна крылаты
Ляціць над зямлёй наш дом.

### Лён

Сеяла лён —
          лівень, лівень,
Бачыла сон —
          сіні, сіні
Ложак сцяліла зары
          белакрылы,
Успаміна́ла цябе,
          мілы...

### Танец

Гары, гары, мой танец, на вуглях,
Жыві, жыві няўтольнае гадамі,
Дзе птушка-вечар на плячо лягла,
Дзе птушка-ноч пунсовых губ жадае.

Гары, гары, мой танец векавы,
Трымай, трымай маю душу-пярынку,
Дзе нечаканы і пяшчотны ўздых савы,
Дзе сосны струмянеюць пад сурдзінку.

Гары, гары, мой танец, па расе, —

Успыхне неба шчыра, палахліва...
Я буду таньчыць і танчэць, а ўсе
Пазнаюць на світанку івалгу.

**Дождж**

1
Неба ўздыхнула —
                    і дождж нарадзіла,
З дзіравага меха— дзіцё...
Цешылася, пакуль дзіва
Дзяліла з намі жыццё.

Цешылася, пакуль цацкі
Былі як жывыя,
                    І мы
Лёталі ў гэтай пяшчоце вар'яцкай
Далёка ад грэшнай зямлі.

Млела, лілося дарогамі дзіва,
Дзе дыванамі зара.
Рукі раскінула велічна зліва
Над цішынёй двара.

2
Лівень, лівень летам, летам
Наталяе цеплынёй,
Ён, тварэц зямлі паэтаў,

Тчэ па ноце голас мой.

Лівень, лівень летам, летам...
Я лячу за ім услед,
На адной сцябліне — ветах,
На другой — увесь сусвет.

Лівень, лівень летам, летам
Лёнам, лёнам спавіваць...
Я паверу, што за гэта
Лета можна лёс аддаць.

3
Хто крылы дараваў дажджу?
Далёкі гром, ці шчырая малітва,
Ці мы з табой, прамоклыя да ніткі,
Ці гэта ноч, што перайшла мяжу.
Хто крылы ладзіў для мяне?
Бяссонню берагам сцяліцца,
А нам ніяк не наталіцца,
Нябёсам зноў у вокны біцца,
І мне ў вачах тваіх нямець.

* * *
Кветка Гарынь — гарачая,
Гнуткая, як струна,
Гняўлівы дзень перайначвала,
Струмянела, цякла.

Кветка Гарынь гарэла
Кожным пялёсткам сваім,
Шалам душы і цела
Знікаючы ў жоўты дым.

Захлыналася кветка ў пяшчоце —
Цішыні збавення майго
І таго, хто сядзеў напроці
Таямнічых снягоў.

* * *

Той, хто народзіцца вольны, як вецер,
Вечарам сыдзе з жыцця.
Вершы — мае паслухмяныя дзеці,
А сапсаваная я.

А нешчаслівая я.
Там, дзе вецце
Воўчым застыла таўром,
Я заблукала нябогаю ў свеце
І растрывожыла гром.

І разбудзіла маланку
Рэхам сівым у барах.
Той, хто прыйдзе на світанку,
Вечарам ляжа ўміраць.

Той, хто прыйдзе як збавенне, —

Будзе з ветрам стагнаць...
Мяне — у небе ўсё меней,
Усё больш — у снягах.

# ЗМЕСТ

***ПЕСНІ КРЫШТАЛЁВЫХ ЗОРАК***

*Літаратурна-мастацкае выданне*
Снарская Іна
(Дзідык Іна Станіславаўна)
**Лясная панна**
*Вершы*
Рэдактар Л. *Дранько-Майсюк*
*Карэктар Н. Аляксеева*
*Набор і вёрстка Л. Ваўчок*
*Адказны за выпуск Г. Вінярскі*

Падпісана да друку 31.05.2001. Фармат 70x90 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Гарнітура Mysl.
Ум. друк. арк. 4,24. Тыраж 300 экз.
Зак. 585.

Падатковая льгота — Агульнадзяржаўны класіфікатар
Рэспублікі Беларусь
АК РБ 007-98 ч. 1 код 22.11.20.300.
МГА «Беларускі кнігазбор».
220034, Мінск, вул. Фрунзе, 5.
Ліцэнзія ЛВ № 105 ад 31.12.1997 г.
Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў друкарні УП «Ходр» БелТІЗ.
220004, г. Мінск, вул. Вызвалення, 9.
АП № 91 ад 12.12.97 г.